Рэгіянальная газета: Браслаў, Глыбокае, Докшыцы, Мёры, Паставы, Шаркоўшчына.

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ

Жыве Беларусь!

Free Hlybokaye

Wolne Glebokie

Дык жа уцям! На Беларусі — беларусы жывуць!
Янка Купала.

Выдаецца са снежня 1994 года | №3 (21), чэрвень, 1999 года | Кошт па дамове

## інфармацыйны блок
## ПРЫСТУПКІ
### падзеі і факты без каментарыяў

❑ Паломнік-пілігрым Нікалас, 29-гадовы пазаштатны карэс-пандэнт міжнароднага "Радыё Марыя" падарожнічае па све-це на веласіпедзе ўжо тры з паловай гады. Усё пачалося на радзіме Нікаласа, у Кіеве, 5 сакавіка 1995 года. За гэты час ён праехаў больш 53 тысяч кіламетраў па тэрыторыі 26 краін: Расіі, Польшчы, Італіі, Грэцыі. Мэта яго падарожжа -- прапаганда здаровага жыцця, яднанне хрысціян усяго свету. Усё гэта добра, цікавіць толькі іншае: як можна тры з паловай гады жыць не працуючы. Ці магчыма такое ў нашай рэспубліцы?

❑ Міжнародны валютны фонд **не** выдзеліць Беларусі крэ-дыт у памеры каля ста мільёнаў долараў у рамках праграмы надзвычайнага кампенсацыйнага фінансавання. Прычына такога рашэння ў тым, што кіраўніцтва Беларусі не вы-канала дамоўленасцей у вобласці эканамічнай палітыкі, якая была дасягнута экспертамі фонда ў мінулым годзе.

❑ У красавіку 1999 года рэальны памер сярэдняй налічанай заработнай платы рабочых і служачых у Беларусі знізіўся у параўнанні з сакавіком на 5,7% -- з 35$ да 33$ ЗША. Калі гаварыць пра зарплату калгаснікаў, то па раёну яна складае ў сярэднім 8 - 10$.

❑ У Брэсцкай вобласці больш значным па плошчы палям пачалі прысвойваць званні вядомых людзей. Ёсць ужо поле імя Пятра Машэрава, Героя Сацпрацы Аляксея Цэбрука. Цікава тое, што расцэнкі за работу на імянных палях павялічаны на 10%. Калі раней прывілеі атрымоўвалі людзі, то зараз у рэспубліцы з`явіліся палі з прывілеямі, бо за большую плату людзі будуць імкнуцца менавіта іх найлепей апрацаваць.

❑ 27 мая Віцебшчыну наведалі кіраўнікі федэральнай служ-бы лясной гаспадаркі Расіі Валерый Шубін і міністр лясной гаспадаркі Беларусі Валянцін Зорын. На расійскага госця вялікае ўражанне зрабіў пітомнік Глыбоцкага доследнага лягсаса, які з`яўляецца адным з буйнейшых на Беларусі. Там на тэрыторыі 43 гектараў вырошчваецца каля 40 парод дрэў. Адных толькі елачак прыкладна 4,5 мільёнаў у год. Ёсць цяпліцы, дзе тыя ж елкі растуць у разы тры хутчэй, чым пад адкрытым небам. Пітомнік ужо 3-ці год экспартуе елкі ў іншыя краіны.

❑ Міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" пройдзе з 20 па 26 ліпеня.Упершыню тут адбудзецца конкурс майстроў народных рамёстваў і промыслаў, фальклорнае свята "Казачае кола". Пройдуць сольныя канцэрты Філіпа Кіркорава, Ларысы Долінай, Валерыя Лявонцева, Сафіі Ратару, Андрэя Губіна. На фестывалі павінны выступіць сусветныя зоркі. Білеты на канцэрты ўжо можна будзе набыць у сярэдзіне чэрвеня. Кошт іх складзе ад 300 тысяч да 10 мільёнаў рублёў.

❑ У Браславе нядаўна абакралі кавярню "Жар птушка". Налётчыкамі сталі двое школьнікаў малодшых класаў 8 і 11 год, якія вынеслі розных салодкіх вырабаў на 25 мільёнаў рублёў. На рахунку непаўналетніх злодзеяў гэта ўжо другое па ліку злачынства.

❑ З 7653-х вучняў школ Пастаўшчыны толькі паўтары тысячы летам змогуць адпачыць у лагерах. Пашчасціла выхаванцам мясцовай школы-інтэрната: больш ста чалавек паправяць здароўе у Італіі, для астатніх зарэзерваваны адзіны ў раёне піянерлагер "Азеркі".

❑ Толькі 5 гаспадарак Докшыцкага раёна маюць на сваім рахунку "жывыя" грошы. У астатніх жа зарплата за мінулы год склала ў сярэднім 2,6 млн.руб. за месяц і выплачвалася з затрымкай у некалькі месяцаў. Людзі шукаюць заробткі ў іншых месцах. Значна палепшала колькасць працоўных у саўгасах імя Чарныша і "Бягомльскім", калгасах імя Суворава, імя К. Маркса.

❑ Амаль палову са 198 чалавек, што стаяць на ўліку на "біржы працы" ў Шаркоўшчыне, складаюць маладыя людзі, выпускнікі школ, хлопцы, што вярнуліся са службы. Выпраў-ляюць іх на ачыстку прыдарожных палос, на некалькі дзён на падмогу калгасам. Няма гарантыі, што атрымаўшы пера-кваліфікацыю, маладыя людзі будуць мець работу і зара-ботную плату. У дзень заўтрашні моладзь глядзіць са страхам і ўжо не спадзяецца на падтрымку дзяржавы, якая не можа гарантаваць правa на працу.

❑ Зняты з пасады старшыні калгаса імя Калініна Глыбоцкага раёна Л. Новік. Глыбоцкі міжраённы камітэт дзяржкантролю высветліў, што пры захаванні зімою ў гаспадарцы згніло каля 20 тон бульбы і каля 5 тон караняплодаў. Мелі месцы і прыпіскі бульбы, якую быццам бы высадзілі на 2,5 гектарах. З-за недахопу кармоў у гаспадарцы зарэзана 80 кароў.

## Штогадовы фэст у Мосары.


Фота Ул. Скрабатуна

*Штогод, на дзень урачыстасці, прысвечай Св. Яну Хрысціцелю (24 чэр-веня) у Мосары адбываецца вялікі фэст. Сюды, да кас-цёла Святой Ганны, з`язд-жаюцца вернікі не толькі з усяе Глыбоччыны, але з далёкіх і блізкіх абшараў.*

*Пілігрымы маюць унікальную магчымасць не толькі наведаць храм, памаліцца Богу, але далучыцца да прыгажосці, створанай тутэйшымі парафіянамі пад кіраўніцтвам айца Ёзаса Булькі. Мосарскі парк (менавіта парк -- такую адзнаку ён атрымаў у шматлікіх публікацыях) з`яўляецца рукатворнай прыгажосцю Беларусі, створанай у апошняе дзесяцігоддзе XX ст.*

*Мосар стаў на Глыбоч-чыне сапраўднай "Меккай", якую не прамінуць наведаць і замежныя госці. Гэта яскравы прыклад таго, якую ролю ў грамадстве можа адыграць руплівы і таленавіты чалавек, сапраўдны гаспадар, якім і з'яўляецца ксёндз Ёзас Булька.*

## Надзённая цытата

**Па-першае, яны прышлі за яўрэямі, і я маўчаў, так як я не яўрэй.**
**Затым яны прышлі за камуністамі, і я маўчаў, так як я не быў камуністам.**
**Затым яны прышлі за членамі прафсаюзаў, і я маўчаў, так як я не быў членам прафсаюза.**
**Затым яны прышлі за мной, і не засталося нікога, хто мог бы сказаць слова ў абарону мяне**

*Пастар Марцін Німоллер, нямецкая ахвяра нацыстаў.*

## Брэсцкае марожанае паедзе ў Чэхію

У глыбоцкіх камерцыйных крамах,у прыватнасці ў краме "**Elen**", даволі часта можна набыць смачнае марожанае брэсцкай вытворчай фірмы "Марожанае".

Аднак, ці будуць гэтую асалоду глыбачане мець заўсёды?

Справа ў тым, што 17 тон марожанага некалькіх гатункаў штотыднёва брэсцчане будуць адпраўляць у Чэхію. Заключэнне такога кантракта стала магчымым дзякуючы поспехам і добраму іміджу фірмы: у тэндэры на пастаўку удзельнічалі 2 расійскія, 1 украінскае і 1 чэшскае прадпрыемствы, аднак, перавага ўсё ж такі была аддадзена брэсчанам.

**А. Васько**

## Аб`яўлены конкурс

Праграма ProMedia Прад-стаўніцтва IREX на Беларусі сумесна з Кансультатыўнай -- Назіральнай Групай АБСЕ і Прадстаўніцтвам Еўрапейскай камісіі аб`яўляюць конкурс "Журналісты на карысць верхавенства закону" для журналістаў друкаваных сродкаў масавай інфармацыі.

Журы разгледзіць артыкулы ў наступных намінацыях: ***"Правы чалавека/ Грамадзянскія абавязкі", "Свабода слова і друку/ Дос-туп да інфармацыі", "Права на карысць эка-номікі".*** Да разгляду будуць прымацца артыкулы, надру-каваныя паміж 3 мая і 15 кастрычніка.

Паважаныя чытачы! Калі ў Вас ёсць цікавая інфармацыя на гэтыя тэмы, канкрэтныя факты парушэння правоў чалавека альбо не выканання грамадзянскіх абавязкаў, дасылайце свае лісты на адрас рэдакцыі. У газеце будзе адкрыта спецыяльная рубрыка "Мы з вамі, мы пра нас", у якой знойдуць месца Вашы думкі, меркаванні, інфармацыя, допісы.

## Падчысцім кішэні — знойдзем на падпіску?

Аб падзенні жыццёвага ўзроўню глыбачан сведчаць дадзеныя аб падпісцы. На 7 чэрвеня сярод лідэраў была газета "Беларуская ніва". Не таму, што нашы землякі вельмі цікавяцца сельскай гаспадаркай, а таму што кошт яе на квартал танней-шы, чым у астатніх газет -- 390 тыс. руб. Лічаныя людзі могуць сабе дазволіць выпісаць нешта больш каштоўнае, напрыкладу "Народную", кошт якой 540 тысяч рублёў на квартал. Не можа хваліцца тыражом і "раёнка": ёй аддалі перавагу ўсяго 900 чалавек у раёне.

Людзі адрэзаныя ад інфармацыі па прычыне нішчымнасці. І гэта на мяжы трэцяга тысячагоддзя. Жывём, людцы, жывём!

**Л. Шумігай**

xxxxx

☞ **На свяце паэзіі ў Міхайлаўскім, якое адбылося 6 чэрвеня і было прысвечана 200-годдзю А.С. Пушкіна пабывалі і нашы глыбоцкія літаратары.**

## Юбілей Пушкіна

Да гэтай даты было падрыхтавана і раённае свята, якое прайшло 5 чэрвеня ў Глыбоцкім ДК. "Асветніцкае" значэнне мерапрыемства ў тым, што гледачы пачулі шматлікі пералік імён і прозвішчаў жанчын, у якіх быў некалі закаханы Пушкін. Паэт быў вельмі ахвочы да жанчын і ўсе свае захапленні пералічваў у спецыяльным спісе. Яго жонка Наталля ў тым спісе 130-ая.

Дзякуючы жанчынам, паэт стварыў сапраўдныя шэдэўры лірыкі кахання, пераканаўшы сучаснікаў, што "бабнік" -- гэта не так ужо і дрэнна.

**М. Шпак**

## Беларусы выміраюць. Не выключэнне і мы, глыбачане.

**За** мінулы год у Глыбоцкім раёне нарадзілася 496 дзетак, а памерла 993 чалавекі. На 347 вяселляў прыйшлося 185 разводаў.

З пачатку 1999 года па 1 чэрвеня ў раёне нарадзілася 133 дзіцяці. За апошні тыдзень, з 1 па 7 чэрвеня, свет пабачылі ўсяго сямёра дзетак: 4 хлопчыкі і 3 дзяўчынкі. **У параўнанні з 1989 годам, калі за суткі дзяжурныя акушэркі пры-малі па 7-9 родаў, лічба сёлетняя зусім маленькая і страшная.**

**Г. Сутула**

## Усе сцягі ў госці да нас

22-23 чэрвеня гг. у Глыбокім адбудзецца міжна-родная гісторыка-краязнаў-чая канферэнцыя *"Глыбоч-чына: погляд у мінулае"*. На мерапрыемства запрошаны гісторыкі і краязнаўцы з Глыбокага, Мінска, Гродна Браслава і іншых гарадоў Беларусі. Прыедзе вельмі прадстаўнічая дэлегацыя з Польшчы, у асноўным гэта нашы колішнія землякі, ураджэнцы Глыбоччыны, якія не парываюць сувязяў з родным краем, даследуюць яго мінуўшчыну.

Арганізатары канферэнцыі -- Глыбоцкі гісторыка-этнаграфічны музей і Глыбоцкае краязнаўчае таварыства "Спадчына".

У найноўшай гісторыіі Глыбоччыны гэта – другая па ліку падобная канферэн-цыя. Першая адбылася 17 верасня 1991 года.

Па выніках канферэнцыі будзе выдадзены інфарма-цыйны бюлетэнь з дакла-дамі яе ўдзельнікаў.

**М. Кухта**

Па той бок мяжы

Галіна Сутула

# Журналісцкія маналогі

**1.**

Мерным ходам на платформу Мінскага вакзала падаецца цягнік на Варшаву. Пасажыры, а іх не так густа, займаюць месцы ў адзначаных білетамі купэ. Хто садзіцца ўпершыню на міжнародны рэйс, адразу заўважае дывановыя дарожкі ў калідоры і ў купэ, чыстыя фіранкі на вокнах, акуратную, у форме, правадніцу. Няма ў цягніку абадраных, абшарпаных сцен, падзёўбаных дзвярэй -- утульна і камфортна. Настрой уздымае задушэўная музыка.

Рэдкія праважаючыя застаюцца на пероне. Крануўшыся з месца, цягнік паволі набірае ход і кіруецца ў бок Брэсцкай мяжы.

Стаю ля акна і прагна ўглядаюся ў родныя краявіды: рэчкі, лугі, лясы, сонныя вёсачкі, сцішаныя гарадкі. Там-сям людзі, павозкі... Усё сваё, роднае, да ўсяго прызвычаілася вока з маленст-ва.

Ад`язджаю з Беларусі з вялікім жаданнем пазнаёміцца са Светам, пабачыць, як ТАМ, за мяжой, людзі жывуць.

**2.**

Праз начную шэрань цяг-нік імчыць наўпрост да мяжы, пакідаючы за сабой Баранавічы.

У Брэсце зацяжны прыпынак. Асноўная яго прычына -- замена калёс цягніка. Аказваецца, і ў плане дарог у нас, краін былога сацыялістычнага лагера, не ўсё так як у людзей: каляя не той шырыні ***. Нашы правадыры і тут вылучыліся. Думалі, відаць, што такім шляхам мы хут-чэй дойдзем да светлай будучыні.

Не дайшлі.




І на цягніку не даехалі.

Такі прылынак на руку мытнікам: адзін за адным шнуруюць па вагонах, правяраюць дакументы, пільна вычытваюць дэкларацыі, " рэвізуюць" няхітрыя пасажырскія спажыткі.

Але мытныя "дэсанты" бываюць розныя: некаторыя разумеюць пасажыраў, шкадуюць паўсонных, стомленых, ветліва і з павагай адносяцца і да малодшых, і да паджылых.

Некаторыя, наадварот, з такім імпэ-там і яўнай асабістай заці-каўленасцю перакладаюць ручнікі, спартыўнікі, шчоткі, мыла і астатнюю дробязь, што хочацца лішні раз усміхнуцца. Хтосьці з пасажыраў пераносіць падобную працэдуру вельмі хваравіта і лічыць, што мытнікі прыніжаюць годнасць чалавека, аглядаючы яго ўласныя рэчы.

Кожны выконвае свой абавязак -- з гэтым мы празмернае стараннe не мытнікам бачыць у пасажырах людзей. -

**3.**

Людзі ў вагонах прачынаюцца ад бясконцага катання туды-сюды, узад-уперад, з вуліцы -- у ангар, дзе цягнік "пе-рабува-юць". Ляскочуць інструменты, нясецца водгулле галасоў рабочых. Не заснеш, каб і хацеў. Ды і паглядзець хочацца: дзе яшчэ ўбачыш такое дзіва, як замена колаў.

Назіраю за рабочымі. У спецыяльных камбінезонах, густа аблепленых мазут-нымі плямамі, людзі жыва-сіллю, рукамі, учаты-рох-пяці, выкачваюць сталё-выя " абоймы" колаў і ста-вяць новыя. Механізацыі працы можна "пазайз-дросціць".

Жанчына ходзіць паміж саставамі, нешта падлічвае, занатоўвае на паперу. Няўжо баяцца, каб колы не загналі "налева"?

У даволі прыстойным для нашага грамадзяніна касцюмчыку пахаджвае па ангары яўны начальнік. Рукі ў кішэні. Сакаліным паглядам акідвае рабочых, цягнікі, цыбатыя краны. Употай пазірае на вокны вагонаў: ці сочаць за ім пасажыры?

Нарэшце, справа зроблена. Цягнік "пералятае" нейтральную тэрыторыю і спыняецца ў Тыраспалі -- польскім узмежжы.

**4.**

Аналагічная працэдура праверкі дакументаў, агляду асабістых рэчаў, пажаданні "шчаслівай дарогі". Зрэдку трапляюцца мытнікі з гумарам. Малады паляк, які прынёс адразу чатыры пашпарты, кажа: "Даю сто тысяч і не заглядваю ў пашпарт. Адгадайце: чый ён?"

Хвіліна і людзі шчыра ўсміхаюцца. Хвіліна і гадзіны бяссоння, напружання зняты.

Добра было б, каб падобных мытнікаў было пабалей: чалавек перасякаў бы мяжу не са страхам быць прыніжаным, пакрыўджаным, а задаволеным.

Тым больш, што мытнікі -- гэта візітная картка краіны. Як яны нас сустрэнуць, так мы і будзем адносіцца да дзяржавы.

Як бы там не было, без прыгод і непрыемнасцей цягнік №103 "Мінск - Варшава" перасек мяжу.

***( Працяг у наступ-ным нумары )***

**** Знаўцы сцвярджаюць, што шырыня каляі чыгункі ў нас прынята з-за стратэгічных меркаванняў, каб цягнікі агрэ-сара наўпрост не змаглі паехаць з Берліна на Маскву.*

Вуліцы па якіх ходзім

## Вуліца варон

**Вуліца Млыновая** -- адна з нямногіх вуліц Глыбокага, якая дасюль трывае сваю першапачатковую назву. Тое было пры цару, так пры паляках, пры Саветах і цяпер, пры беларусах. Цікава, што і немцы, якія часова акупавалі Глыбокае (пад час апошняй вайны) не грэбавалі першапачатковай назвай. Як казаў старажыл гэтай вуліцы сп. Згірскі, яна па-іх-няму звалася **Mühlstraße,** што і адпавядае сэнсу "Млыновая".

Разгадку назвы не трэба доўга шукаць -- побач каменны будынак кавярні "Алеся". Гэта і ёсць колішні млын. Там і цяпер, у нішы, чытаецца надпіс: *"Сооружено П.І. Мирманомъ, 1911 годъ"*. Памятаецца, што пад час славутага Гарбачоўс-кага рэферэндуму аб заха-ванні Савецкага Саюза, тут месцілася "забягайлаўка" пад назовам "Стары млын", празваная між кабет "Жаночыя слёзы".

Ніякіх славутасцяў на вуліцы не захавалася (можа іх і не было нікол)і, сам жа млын стаіць на суседняй вуліцы. Аднак, над аднапавярховай забудовай узвышаюцца добрыя два дзесяткі празмерна агромністых , з вялікімі шатамі, срэбных таполяў.

Узімку вечарэе рана. Як толькі сонца схаваецца за небасхіл, на вершаліны дрэў уссядаецца процьма варон і галак. Птушыныя галасы не супыняюцца да ранку. Штодзень белае снежнае пакрыва зямлі пад дрэвамі, усё шчыльней і шчыльней усцілаецца птушыным памётам. Да канца зімы таўшчыня яго дасягае каля дзесятка сантыметраў. Не дзіва, што ўвесну тут дужа актыўна пачынае з`яўляцца буйная расліннасць.

І ўсё ж, праходзячы ўзім-ку па вуліцы пад шатамі дрэў, вам, незнарок, на каў-нер альбо на шапку, можа ўпасці не адна і не дзве, "кроплі". Тады пачынаеш згадваць радкоўе аднаго славутага анекдота: *"Добра, што каровы яшчэ не лётаюць!"*

## Крывая вуліца

Вуліца Кірава -- адна з самых старых у Глыбокім. Яе можна аднесці да разра-ду цэнтральных, бо мае даволі інтэнсіўны рух і выйсце (пераходзіць за межамі горада ў дарогу) да іншых населеных пунктаў.

Некалі да рэвалюцыі звалася Дворнай. Дзесьці паміж 1702-04 гг. на ёй была пабудавана царква Святога Пятра.

У той час вуліца адыхо-дзіла ад "Конскага торгу", які, яшчэ да рэвалюцыі, знахо-дзіўся на месцы сённяшняй пажарнай часткі. Тут, на месцы колішняга халернага цвінтара, стаяў вялікі крыж з агароджай. Назоў жа свой вуліца атрымала ад маёнтка (двара), які знаходзіўся побач з вуліцай.

Палякам нешта не спадабалася гэтая назва і яны перайменавалі яе ў Радзівілаўскую **(Radziwillowska)**. Зрэшты, тое выглядае даволі натуральна -- на працягу некалькі стагоддзяў род Радзівілаў валодаў паўднёва-заходняй часткай Глыбокага.

Немцы, якія акупавалі Глыбокае на тры гады, таксама далі ёй сваю новую назву. Аднак, не знайшоў чалавека, які б гэтую назву памятаў.

Можна было б не згадваць гэты факт (акупацыя Глыбокага прынесла страшэнныя чалавечыя ахвяры і матэрыяльныя страты), каб не адна цікавая акаліч-насць. Паводле сведчанняў аднаго са старажылаў, нем-цы ўжо былі склалі план горада па якому ўздоўж ву-ліцы Кірава, з боку возера Кагальнага, дамы належалі зносу, і гэтая тэрыторыя пераўтварылася б у парка-вую зону.

Калі пачуў пра вышэй сказанае, то вельмі здзівіў-ся. Прызнаюся: нейкія падобныя думкі ўзнікалі і ў мяне. Сапраўды, калі едзеш, альбо ідзеш па вуліцы Кірава, то адкрываецца прыгожы відарыс на возера, касцёл і царкву. Аднак, старыя драўляныя дамы, вокны якіх цяпер сталіся на ўзроўні асфальту праезднай часткі, выклікаюць толькі жаль. Думалася: далі б людзям кватэры, дамы б знеслі, пашырылі возера, утварылі паркавую зону, добраўпарадкавалі ўзбярэжжа...

Думкі думкамі, а між тым вуліца Кірава значна "віхляецца" ў плане горада -- яна самая "крывая" ў Глыбокім. Зрэшты, трэба ёй вярнуць спрадвечнае імя -- "Дворная", бо гэта наша гісторыя.

Ул. Скрабатун

## Усяго патроху

**30 мая ў сваёй кватэры** загінуў 24-гадовы супрацоўнік глыбоцкага РАУС. Мужчына, адправіўшы жонку і дачку да бацькоў, вырашыў адаспацца. У выніку кароткага замыкання свяцільніка адбыўся пажар. Супрацоўнік міліцыі задыхнуўся ад дыму.

*****

**Сярэдні памер выплат па беспрацоўю** на Беларусі 663, 8 тысячы рублёў (каля паўтара долара). Калі раздзяліць спажывецкі мінімум на колькасць дзён у месяцы, выходзіць, што беспрацоўнаму хапае сродкаў толькі на паўтара-два дні. Клопат дзяржавы пра чалавека сапраўды непараўнальны.

*****

**ЗША па-ранейшаму настойвае** на вызваленні з-пад заключэння экс-прэм`ера Міхаіла Чыгіра, а таксама забароне практыкі затрымання прадстаўнікоў беларускай апазіцыі. Пасол Дэ-від Джонсан заявіў, што "ЗША будуць працягваць ра-шучую падтрымку ідэалаў дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі..."

*****

**10 чэрвеня ў Мёрах** прайшоў традыцыйны конкурс польскай песні. Удзел у ім прымалі фальклорныя калектывы і выканаўцы з Браслава, Глыбокага, Пастаў.

### Вы едзеце ў камандзіроўку?

**З 1 чэрвеня** ў сувязі з павелічэннем мінімальнай аплаты працы, па-іншаму будуць аплачвацца камандзіровачныя расходы. Сутачныя -400 тысяч за кожны дзень камандзіроўкі, а пры аднадзённых камандзіроўках 120 тысяч рублёў. Расходы па найму жылля аплачваюцца згодна квітанцый, а без прадстаўлення дакументаў - 120 тысяч.

*****

**6 чалавек загінулі, 13 атрымалі раненні** рознай ступені цяжкасці ў выніку абвалу 15-тоннай бетоннай пліты ля ўвахода ў вестыбюль станцыі "Сянная плошча" пецярбургскага метро.

*****

**Прэзідэнт А. Лукашэнка даручыў** адміністрацыі і ўпраўленню справамі пакпапаціцца аб тым, каб ля ўваходу на станцыю метро "Няміга" -- на месцы трагедыі, што адбылася ў Мінску 30 траўня, -- быў збудаваны памятны знак. Для распрацоўкі праекта створана спецыяльная група пры Мінскім гарвыканкаме. Знак плануецца ўстанавіць на 40 дзён з моманту трагічных падзей.

## З чым сустрэнем гасцей?

Пытанне, вынесенае ў загаловак, выглядае натуральным. Сапраўды, з чым мы можам сустрэць гасцей? Італьянцы прапанавалі б спагеці, рускія -- пельмені. Чэхі -- добрае піва, немцы -- сасіскі да вышэй згаданага напою. А мы чым? Клёцка-мі? Лагічна. Гэтая страва, сапраўды стала нацыянальнай. Шчырыя беларусы, якія шануюць традыцыі, не пра--мінуць прыгатаваць іх і пачаставаць замежных гасцей. Было такое ў лютым гг. у Браславе, калі пасля ці-кавай экскурсіі па горадзе і музеях Браслава, мясцо-выя краязнаўцы частавалі клёцкамі прадстаўнічую дэлегацыю з Еўропы.

У нашай газеце ("ВГ" №1(2) за 1995 г.) быў апублікаваны артыкул "Робім тое, што памятаем", прысвечаны М. Навіцкаму, які ў 30-я гг. займаўся ў Глыбокім вытворчасцю каўбас. Потым на эміграцыі, у Амерыцы, ён таксама вырабляў каўбасы па старадаўніх глыбоцкіх рэцэптах. На гэтым ён зра-біў свой бізнес. Дэвіз сямей-най фірмы, які вяшчаў з пры-гожа аздобленай шыльды быў: ***"Мы вырабляем тое, што вы памятаеце".***

Цікава, як адрэагуюць нашы ўлады, калі ім "падкінуць" адну ідэю?

Клёцкі клёцкамі, а каўбаса каўбасой. Чаму б нам не адрадзіць старадаўнія традыцыі глыбоцкай каўбасы? Ідэя -- простая. Загаддзя абвяшчаецца конкурс на самую смачнейшую каўбасу, выробленую на Глыбоччыне. Удзельнічаць могуць усе ахвотныя, незалежна, ці гэта бабулька з вёскі, гараджанін, ці дырэктар мясакамбіната. Прадстаўнічае журы (дэгустатары) вызначаюць пераможцаў.

Па выніках конкурса выпрацоўваецца тэхналогія прыгатавання **глыбоцкай** каўбасы некалькіх гатункаў: вяленай, сыра-вэнджанай і г.д.

Зразумела, што трэба мець нейкага фундатара. Ім мог бы быць , напрыклад, мясакамбінат. Трэба ж бабкам з вёсак сплаціць кошты за білеты і за працу, пераможцам урычыць дыпломы. Гэта -- не такія ўжо і вялікія грошы.

Няма сумневу, што гэтая традыцыя некалі будзе адноўлена, незалежна ці пры Аляксандру Рыгора-вічу, ці пры Зянону Стані-слававічу.

Між іншым, апошні абяцаў некалі адбудаваць у Глыбокім старажытную аўстэрыю (заезны дом) на прыкасцельным пляцы. Там бы мы і частавалі гасцей.

Мікола Самавіты

Ёсць прапанова



## Шыхт, зважай! Крокам руш!

У планах нашай газеты ёсць правядзенне рыцарс-кага турніра. Мяркуецца, што будзе запрошаны рыцарскі клуб "Жалезны воўк", які існуе сярод студэнтаў По-лацкага Дзяржаўнага Універ-сітэта. У гэтым клубе, між іншым, прысутнічаюць і нашы хлопцы з Глыбоччыны. Яны удзельнічалі ў імітацыі гу-сіцкіх войнаў у Чэхіі.

Аднак, гэта пакуль -- пла-ны, адлеглая перспектыва. У Глыбокім даўно вітае думка аб стварэнні падобнага клуба і ў нас.

Зразумела, што ў такіх клубах не толькі займаюцца вырабам рыцарскага рыштунку (а ў нас для гэтага ёсць спрыяльныя ўмовы -- кааператыў кавалёў "Дэкор") і фехтаваннем, але вывучаюць слаўную ваенную гісторыю Беларусі, ладзяць вандроўкі па месцах легендарнай славы беларускіх вайскоўцаў сярэднявечча. Зрэшты, гэта і магчымасць паехаць на рыцарскія турніры ў Еўропу.

"Вольнае Глыбокае" бярэ на сябе ініцыятыву па стварэнню такога клуба. Між іншым, і дзяўчаты могуць удзельнічаць у рабоце клуба. Каго зацікавіла такая прапанова, просім свае допісы накіроўваць на адрас: *211800, г. Глыбокае, вул. Леніна, 107, кв. 34, Храпавіцкаму Анд-рэю.*

